## ХРЫСТОС УСКРОС!

Ось дачакаліся і Вялікадня.

Ціха спусьцілася на зямлю ночка цёмная. Ціха павявае ветрык веснавы, — сьвежы, бадзёры. Ціха мігацяць у далёкім, далёкім небе зоркі ясныя, бліскучыя.

Праца скончана. Забыта ўсё гора і нядоля, усе сваркі і звадкі. Усюды чысьценька прыбрана. Бацька лёг троху адпачыць. Толькі маці з Алёнкою яшчэ мітусяцца каля печы.

На лаўцы сядзіць стары дзед у новай сарочцы і прыслухоўваецца, быццам чаго чакае.

Раптам — загудзеў звон: бом!..бом!..бом!.. На вуліцы пачуліся галасы. Хтось шыбка прабег пад вакном, нібы каго даганяючы.

Дзед наш хрэсьціцца, потым устае і, апёршыся аб стол, доўга, доўга глядзіць у вакно. І ўсё хрэсьціцца... хрэсьціцца...

А тым часам у канцы сяла, на горцы, зьзяла — ўся ў агнёх — царква. Далёка разносіўся гул чудоўнае песьні: Хрыстос ускрос! Ёй уторылі магутныя званы. Здавалася — ўсё навакол будзілася і клікала да радасьці, жыцьця.

Прайшла гадзіна, мо дзьве. На ўсходзе загаралася зорка. Дзед ужо бачыць з хаты бярозу, плот перад вокнамі суседа. Ужо цілікаюць дзесь птушачкі, абудзіўшыся ад сну.

Хутка ўся вуліца ажыла. Ад царквы густым натоўпам ішлі, ехалі людзі, з шчасьлівымі тварамі, вясёлым усьмехам.

Уся сям'я за сталом. Дзед сеў пад самымі абразамі.

—Сяньня ўсе шчасьлівыя, — казаў дзед, варушачы губамі. — І я шчасьлівы, хоць і хутка памру. Але я не баюся сьмерці, бо — Хрыстос ускрос!

—Дзедка, а дзедка! — сказала Алёнка, маладая дзяўчына, дзедава ўнучка: ось каб заўсёды было сьвята, як сяньняшні дзень!

— Будзе, дзетка, Сьвята! Будзе!.. Глядзеце—сонейка ўжо ўстае з-за гары. Для ўсіх гарыць сонейка. Вялікдзень ідзе! Ідзе!.. Бо—Хрыстос ускрос!

— Ваісьціну ускрос! — адказалі дружна бацька, маці, Алёнка і ўсе малыя, што сядзелі за сталом.

З паэмы „Новая Зямля“. Якуба Коласа.

## ВЯЛІКДЗЕНЬ.

### СУБОТА ПЕРАД ВЯЛІКАДНЕМ.

Прыйшла Вялікая Субота.
Даўно прыпынена работа,
І ўжо пад вечар сама хата
Была прылучана да сьвята:
Лагоднасьць, згода і павага
І вельмі сталая развага
Увесь гэты дзень тут панавалі,—
І блізкасьць сьвята шанавалі
Старыя, дзеці і падросткі,
І шуму тут не падыймалі,
Як буднім днём, з-за кожнай
косткі.

Алесь і Костусь, Міхаліна —
Сама найшла на іх часіна —
На працу зранку выйшлі самі
І падмялі двор дзеркачамі.
Пясочку потым накапалі
І сьцежкі ім панасыпалі;
І гэты дворык так зьмяніўся,
Так гожа траўкай заіскрыўся,
Што проста глянуць было люба,
Хоць ты вядзі яго да шлюбу.

### ВЯЛІКОДНАЯ НОЧ.

Над ціхай шэраю зямлёю
Навісла ночка тэй парою.
Было спакойна і лагодна,
Як-бы сама прырода тая
Паважнасьць сьвята адчувае,
З людзьмі жыве супольна,
згодна.
Маўчаць хваіны, ані зыку,
Ня шэпне гэты бор—музыка,
Стаіць маўчкі і разважае,
Відаць, Вялікадня чакае.
Вялікдзень чуюць зьвяры і птушкі
І хвоі гэтыя і елі.
Ліхія людзі падабрэлі,
Бо сьвятам Божым усюды вее,
З нажом разбойнік не пасьмее
Залегчы ў лес сярод дарогі,
Бо і заможны і убогі
Сьвяты Вялікаднік сьвяткуюць
І радасьць ў сэрцы сваім чуюць.

## ВАЛАЧОБНІКІ.

Прыехаў Рыгорка з бацькамі з царквы дамоў. За лесам усходзіла сонейка. Залатыя храсты купалаў царквы гарэлі ў небе. У дуброве чуваць было песьню салавейкі. Тата казаў Рыгорку, што салавейка заўсёды пачынае пяяць у Вялікодную ноч, як у царкве запяюць: Хрыстос ускрос!

Прыехалі дамоў. Разгавеліся.

Ніяк хлапец не забудзецца аб Вялікай ночы.

Кончыўся першы дзень.

Толькі сьцямнела — пад акно прыйшлі валачобнікі з суседняе вёскі.

— Пані гаспадыня! Пане гаспадару! Дазвольце вас павесяліць.

— Весялеце, весялеце, толькі хаты не развалеце! — адгукнуўся тата.

— Як гэтую развалім, то новую паставім: сьцены з гліны, з саломы падваліны, — адказалі валачобнікі. — Што пяяць? „Віно“ ці „Вясёлы дзень“?

Папрасілі запяяць „Віно“.

Вясёлым пяяньнем дружна адказалі валачобнікі:

А ў нашага пана ў дварочку,
ды віно-ж маё, зеляное!
У дварочку, як у вяночку,
ды віно-ж маё, зеляное!
Вырас дубок тонак, высок,
ды віно-ж маё, зеляное!
Усе сьвятыя там зьбіраліся,
ды віно-ж маё, зеляное!

Зьбіраліся сьвятыя, як даглядаць жыта, пшаніцу, усяку забажыцу:

каб з каласочка была жыта бочка,
а з другога больш як з тога.
Дай табе, Божа, пане гаспадару,
жыта звазіці, ў гумно зложыці.

Пералічыўшы працу каля жыта, валачобнікі закончылі просьбай, жартамі:

Пане гаспадару, не тамі гасьцей,
Не тамі гасьцей, надары барждж эй.
Карэц яец нялічоных,
Дзьве саракоўкі на падкоўкі —
Мы ўсе боты патапталі,
Мы хадзілі каля лазы,
Спалохаліс дзікай казы.

Пайшоў Рыгоркаў тата дастаць пірагі, а валачобнікі зьвяртаюцца з песьняй да яго мамы:

Гаспадынечка — журавіначка!
Падстаўляй драбінку, лезь па саланінку.
Вісіць абод — калясо будзе,
Пазаві ў хатку — харашо будзе!

Падалі валачобнікам пірага, яец, каўбасы і сала. Пайшлі яны іншых людзей весяліць. Рыгорка пабег за імі. На вёсцы было гучна і весела.

Р. Шырма.

## З ВЫРАЮ.

Ляцяць яны да нас, ляцяць яны
З далёкай цёплай стараны,
Нясецца крык іх над зямлёй,
Бо бачаць ўжо край родны свой.
Прывет з далёкай стараны
Нам радасна нясуць яны.

К. Буйла.



# СЬВ. ВІЛЕНСКІЯ МУЧАНІКІ І ЧУДАТВОРЦЫ АНТОН, ІВАН І АСТАП.

Гэта было ў далёкай, далёкай мінуўшчыне, бяз мала 600 гадоў назад.

Народ беларускі ўжо адзначаўся ад суседзяў сваёю мовaю, сваімі звычаямі, сваім асобным ладам грамадзкага жыцьця. Разам з ліцьвінамі і ўкраінцамі беларусы тварылі магутную літоўска-беларуска-украінскую дзяржаву, са сталіцаю ў Вільні. Хоць на чале дзяржавы стаяў вялікі князь ліцьвін, аднак мова і культура панавала беларуская.

Большасьць ліцьвіноў трымаліся веры праваслаўнай, якую прынялі ад беларусаў, але шмат было яшчэ і паганцаў. Жрацы, якія мелі вялікі ўплыў на ўсё жыцьцё паганцаў, настройвалі іх вельмі варожа супроць пасьлядоўнікаў праваслаўнае веры. Сярод апошніх асабліва выдаваліся родныя браты Антон і Іван (да хрышчэньня называліся Няжыла і Кумец), якія займалі высокія пасады пры двары вялікага князя Альгерда (1345-1377). Яны жылі як праўдзівыя хрысьціяне і срога выпаўнялі ўсе звычаі, абрады і ўстановы Царквы. Калі аднаго разу Альгерд, на дамаганьне паганскіх жрацоў, запрапанаваў Антону і Івану зьесьці выстаўленага на паганскім стале мяса (гэта было ў посны дзень), браты адмовіліся. За гэта Альгерд загадаў кінуць іх у вастрог, а пасьля і павесіць. Павешаны яны былі 14 красавіка 1347 г. на тым самым месцы, дзе цяпер стаіць манастыр Сьв. Тройцы.



Хутка пасьля таго далучыўся да сьв. братоў іх сваяк Астап, адзін з Альгердавае дружыны. Прыняўшы праваслаўную веру, ён ня толькі сьмела прызнаў сябе хрысьціянінам, але пачаў і князеву дружыну пераконваць, каб прыняла веру Хрыстову. Тады пачалі яго катаваць, а напасьледак павесілі на тым самым дубе, дзе нядаўна былі павешаны сьв. Антон і Іван (13. XII. 1347 г.).

Праз 17 гадоў пасьля сваей сьмерці сьв. мучанікі былі далучаны да ліку сьвятых праваслаўнае Царквы, пры чым было пастаноўлена сьвяткаваць іх дзень 14/27 красавіка. Яны былі прызнанымі, як „нябесныя пакравіцелі і абаронцы Літвы",—так называлася тады злучаная Літоўска - Беларуска-Украінская дзяржава.

Да 1915 г. мошчы сьв. мучанікаў знаходзіліся ў Вільні. Падчас Вялікае вайны яны былі вывезены ў Маскву, дзе і знаходзяцца да гэтага часу. Ляжаць яны там не ў царкве, а ў музэі, і выстаўлены не для пакланеньня і малітвы: бальшавікі адкідаюць усялякую рэлігію і ўсё, што злучана з рэлігійным культам ці абрадамі.

## ВУЛЕЙ СТАРОГА МАЦЕЯ.

Як толькі прыйдзе вясна у вёску,
зялёным шумам пачне шумець,
І загарыцца гарачым воскам
ў лазе надрэчнай ціха брэдзь, —
Тады з лучыны, з гарбатай печы,
памалу злазіць стары Мацей,
рызман накінуўшы на плечы,
йдзе даглядаць стаяк-вулей:
З лятва, памалу, выймае сторшку,
падчысьціць трохі дзе-недзе.
Крануцца пчолкі ісьці па дошках,
па шэрым хропе і барадзе.
Стары сьмяецца, аджыў, гавора:
„Ну што-ж заседзеліся вы?“...
Рукой памалу госьцяў кволых
з сівой зьбірае галавы.
„А ўжо за полем — кажа пчолкам —
запахла мёдам у лазе“...
Гавора аб сваім пасёлку
і аб сваёй старой бядзе:
што ўсю вясну жыве бяз хлеба
сям'я і сам стары Мацей;
Няма за што купіць і дрэва:
рамовы пчолкам даць вулей...
„Ды і зіма была ліхая“...
Адпаду, бачыш, жмені дзьве...
Ну, дзе ты лезеш?... Эх, дурная!
у вочы, ў нос, па барадзе..
А пчолы з залацістым звонам
іскуюць, сыплюцца з вульля
І сьмехам збуджаным зялёным
сьмяецца поле, лес, зямля.

**Максім Танк.**

## ВЯСНА.

У вянку з пралесак,
У сьвятлянай шаце
Ходзіць борам-лесам,
Полем, сенажацяй.
Сьцелецца травіцай,
Ветрыкам шапоча,
Коціцца крыніцай,
Рыбкаю плюскоча.

Весела міргае
Сошцы і баронцы,
Зернятка хавае
У сьвежай баразёнцы.
У гайкі заходзе,
Шапаціць лісткамі,
Гутарку заводзе
З белкамі, дзятламі.

**Янка Купала.**

## НАЗІРАНЬНІ Ў ТРАЎНІ.



1. Якія краскі цьвілі да Вялікадня?
2. Якія краскі будуць пасьля Вялікадня ў лесе? на балоце? на сенажаці?
3. Калі закувала першы раз зязюля? дзе?
4. Дзе і якія ўюць гнёзды шпакі? вераб'і? ластаўка?
5. Якія садовыя дрэвы цьвітуць раней, якія пазьней?

Абгаварыце ўсе гэтыя пытаньні з вашымі таварышамі.

## ВАЎЧОК І МУРКА.

На адным панадворку жыў сабака Ваўчок і котка Мурка. Ваўчок любіў Мурку. Мурка часта хадзіла ў госьці да Ваўчка. Ягоная гаспадыня не праганяла Муркі. Цешылася яна гледзячы, як яны разам гуляюць, ядуць з аднае міскі. Мурка так прывыкла да Ваўчковае гаспадыні, што на вясну ў яе кухні прывяла кацянё.



Калі кацянё было малое, то Ваўчок мала зьвяртаў на яго ўвагі. А калі падрасло, Ваўчок любіў з ім пагуляць. Бывала, схопіць яго за карак, прынясе на сваю пасьцель, і давай качаць, забаўляцца. Кацянё і рада: скача на Ваўчка, хапае яго за морду, за вуха, учэпіцца за хвост. Ваўчок усё церпіць, усё яму дазваляе.

Аднаго разу кацянё, скачучы на бальконе, застаўленым рознымі краскамі, ўпала ўніз, на брук. А было да зямлі мэтраў з пяць. Ляжыць кацянё, зусім як няжывое. Зьбегліся суседзі, шкадуюць, а рады даць ня могуць. Чакаюць, што будзе рабіць сама Мурка. А Мурка, як прыбегла, дык адразу кацянё за карак,— хоча нясьці, але ня мае сілы: кацянё было ўжо не такое малое. Што рабіць? Ня доўга думаючы, Мурка бяжыць па сходах наверх да Ваўчка: жаласна пішчыць, бегае навакол, штось як-бы кажа свайму прыяцелю. Ваўчок зразумеў, што сталася нейкая бяда, схапіўся з свайго месца, хуценька пабег уніз, узяў зубамі кацянё і прынёс па сходах на сваю пасьцель. Мурка бегла сьледам за ім. Доўга Мурка абмывала сваё дзіця. Ваўчок ляжаў тут-жа і спачуваючы глядзеў. Калі гаспадыня прынясла цёпленькага малачка, кацянё павесялела.

Праз дні тры кацянё йзноў лётала за Ваўчком па ўсіх пакоях.

Не заўсёды кот і сабака — ворагі.

## ВЯСНОЙ.

(Урывак з паэмы „Нарач“, ч. III, 5).

Чарнеюцца гарбатыя
дзе-недзе берагі,
кладуцца цені захаду
на шэрыя сьнягі.
Сьмяецца вечар спозьнены
званочкам пад дугой
і сыплюць зоры-зорныя
густы пчаліны рой.
Мігаюць сіратлівыя
дзе-недзе аганькі,
хоць зморaныя працаю
ня сьпяць штось рыбакі.
Кранула верхаводкаю...
на лёдзе шмат вады...
Ім сьняцца хвалі сінія,
ім сьняцца невады, —
трысьцё пужліва гібкае,
чарот ля берагоў
і першы срэбрна-сіні іх
на возеры палоў...
І ціха засынаючы
чарнеюць берагі,
кладуцца цені захаду
на шэрыя сьнягі.
Сьпіць вёска нарачанская
пад сіняю дугой,
і сыплюць зоры зорныя
густы пчаліны рой.

**Максім Танк.**

## ТАВАРЫСТВА АБАРОНЫ ПТУШАНЯТ.

Ідуць дзеці са школы праз гаёк. У густым бярэзьнічку пырхаюць птушачкі. Паветра ажно зьвініць ад іх чароўных песьняў. Весела ідуць нашыя шкаляры, жартуюць, раптам бачаць — на сьцежачцы раскіданае гнязьдзечка, а каля яго трое маленечкіх птушанят. Узялі ў рукі, пахухалі — няжывыя...

— Пэўна, гэта — работа Язэпкі і Дзьмітрука Сідаруковых. Яны майстры на такія штукі, — сказалі некаторыя з дзяцей.

Ідуць далей. Ізноў тое самае.: з дупля выкінута на сьцежку цэлае гняздо шпачкоў. Ужо абрасьлі пер'ем. Навакол на галінках сядзяць бацькі і жаласьліва цьвіркаюць.



Усю дарогу да самае вёскі шкаляры йшлі вельмі засмучаныя і штосьці ціха абгаварвалі.

Увечары таго дня каля магазыну сабраліся дзеці амаль з цэлае вёскі. Сідаруковых ня было. Доўга сабраныя не маглі зрабіць ніякага парадку. Нарэшце Міколка Чыж, вучань пятае клясы, пачаў гаварыць:

— Грэх забіваць птушаняты. Яны зьністажаюць розныя шкодныя чэрві, вусені, жукі, матылі. Калі-б ня птушкі, дык людзям жыцьця ня было-б ад іх. Яны паелі-б усялякае збожжа і варыва, папсавалі-б усе дрэвы, і людзі нічога ня мелі-б ні ў полі, ні ў садзе, ні ў гародзе.



— З птушаняткамі людзям прыемней і весялей жыць, — дадала Марыська Пукала. — Яны так прыгожа сьпяваюць. Шкада маленечкіх птушачак, таксама і іх бацькоў. Чым яны вінаватыя перед намі? Што каму прыбудзе з таго, калі ён расьцярушыць гнязьдзечка і заб'е птушаняты?

Доўга гаварылі і крычалі дзеці на тым сходзе. Скончылася тым, што залажылі „Таварыства абароны птушанят і іх гнёздаў". Пастанавілі: каго зловяць, што ён разбурае гнёзды, з тым ніхто ніколі ня будзе ні гуляць, ні гаварыць.

Ужо некалькі гацоў існуе ў той вёсцы закладзенае Таварыства.

**Прыказка.** Праўда груба, да Богу люба.

## РОДНЫ КРАЙ.

О край родны, край прыгожы.
Мілы кут маіх дзядоў.
Што мілей у сьвеце Божым
Гэтых сьветлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе бары — лясы гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць; —
Гэтых гмахаў безгранічных,
Балатоў тваіх, вазёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае простор;
Дзе увосень плачуць лозы,
Дзе вясной лугі цьвятуць,
Дзе шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць.

**Я. Колас.**

## СІЛА ЖЫЦЬЦЯ.

Чаму вясною ўся прырода абуджаецца да жыцьця?

Бо вясна нясе на зямлю шмат сьвятла і сонца, дае ваду, цёплае і сьвежае паветра, — ўсякаму жывому стварэньню вясною „волі многа і прастору — шырыні“. Бяз гэтага не магла-б ажыць пасьля зімовага сну ніводная расьлінка, ніводная казюлька, ніводная жывёла.

У прыродзе нішто ня хоча ўміраць. Усё прагавіта хоча жыцьця, і толькі чакае адпаведных умоваў, каб яго пачаць. **У кожнай нават самай маленькай травінцы ўкрыта вялікая сіла жыцьця.**

Вазьмеце зернятка ці карэньчык якое-колечы расьліны: здаецца, зусім высах, паламаны, затоптаны, нічога з яго ня будзе. А спрабуйце пасадзіць у добры грунт, на сонейка, палівайце, даглядайце і — **выйдзе парастак, з якога далей разьвінецца цэлая расьліна.**

Хто ня бачыў расьлінаў часта там, дзе — здавалася-б — ня можа быць ніякага жыцьця? на голых каменьнях (мох), на вясковых старых саламяных стрэхах (каноплі), нават на бляшанай страсе некаторых недагледжаных будынкаў (бярозкі); на адным такім будынку ў Беластоку яшчэ некалькі гадоў назад можна было бачыць **цэлы гай**.

Мне патрэбны былі тычкі для гароду, на фасолю. Адзін гаспадар прывёз з вёскі сьвежага гальля вярбы. Паўтыкаў я на градках. Прайшоў тыдзень-другі, паглядзеў, ажно кожная тычка то ў адным, то ў другім месцы **выпусьціла пупышкі.**

У гарадох можна часам наглядаць, як вылажаныя шчыльна дошкамі ці нават пакрытыя асфальтам (земляная смала) кладкі ці масткі для хады людзей у некаторых месцах, дзе ёсьць блізка дрэвы, на вясну карэньнямі гэтых дрэў выпіраюцца ўгару, а дзе асфальт, там ён выпінаецца, разрываецца, і выйшаўшыя на сьвет Божы **парасткі пачынаюць буйна расьці,** пакуль іх ня зьнiстожаць.

Пры раскопках магільнікаў у Эгіпце знаходзілі зерняткі пшаніцы. Гэтым магільнікам, як і гэтым зерняткам налічваецца якіх 5-6 тысяч гадоў. Нядаўна зерняткі пасадзілі, і **яны прарасьлі.**

Таксама нядаўна вучоныя вярнулі да жыцьця **праз адмарожваньне** розныя расьліны, грыбкі і нават адну з ніжэйшых жывёлаў, якія на працягу цэлых тысячаў, а мо' дзесяткаў тысяч і болей гадоў знаходзіліся ў вечна мёрзлай зямлі, — пры чым зямлю гэтую даставалі на глыбіні ад 2 да 6 мэтраў.

**Як-жа магутна сіла жыцьця ў расьлінаў і жывёлаў!**

Так-жа магутна гэта сіла жыцьця, асабліва жыцьця духовага, і ў чалавека! Кожны чалавек шукае сонца і цяпла, радасьці і шчасьця. Кожны хоча жыць ,,без бяды, бяз жуды, без нягоды". Кожны, як тая расьлінка, ня гледзячы на ўсялякія перашкоды, прабіваецца да жыцьця вольнага і разумнага. Кожны, як зноў-жа тая расьлінка, адчувае сябе добра і моцна ,,расьце" толькі на родным грунце, у родным паветры, сярод сваіх людзёў, з якімі лучыць яго усё: вера, мова, звычаі, увесь склад жыцьця і працы.

Гэтак жывуць пад небам, гэтак змагаюцца за жыцьцё вольнае і культурнае, гэтак чакаюць свае ,,вясны" і цэлыя народы.

**Да ліку іх належаць і Беларусы.**

## СЕМ РАДКОЎ.



Сем гадкоў, мой браце, маеш,
сем гадкоў,
ў лемантары прачытаеш
сем радкоў.
У вадным, што Беларус ты,
дзе жывеш,
як з кавалкам чорнай лусты
ты арэш.
Трэці будзе мо' аб песьні
гаварыць
і аб сонцы, на прадвесьні
што гарыць...
Пяты скажа аб курганах
казак шмат,
аб чым вецер пяе рана
каля хат.
Сёмы скажа, што так болей
нельга жыць,
на палосах нашых долю
як здабыць...
Навучыся, мілы браце,
сем радкоў;
павіднее нам у хаце —
мужыком.

**Максім Танк.**

Сакавік 1937 г.

## ТАМ УСЁ НЯ ТАК, ЯК У НАС.

Вялікаднем зьбіраюцца дзеці — адныя яечкі качаць, іншыя — пабегаць, пагуляць, а некоторыя і кніжку пачытаць, дый проста пагутарыць аба ўсім. Сяньня каля млына сабраліся школьнікі, ці, як яны самы сябе называюць, ,,шкоднікі": Сымон Дрозд, Міхась Грыцук, Пётра Мароз — з мясцовае школы, Язэп Бычок — вучань беларускае гімназіі з Вільні, які прыехаў да хаты на сьвята, Мікалай Рудак, Тамковіч Максім і др. Былі і няпісьменныя, — паслухаць, як ,,вучоныя людзі" гавораць.

— У нас травень, жыта яшчэ не налівалася, а ёсьць краіны, дзе збожжа ўжо зжата, — сказаў Міхась Грыцук.

— Ты кажаш пра Эгіпэт? пытаецца Бычок. — Ну, так: там пшаніца сьпее тры разы ў год. Гэта тая краіна, скуль цяпер вяртаюцца нашыя птушкі. Але гэта далёка, за морам.



— А ёсьць і такія краіны, дзе авёс ледзь высьпявае, або дзе наагул ніякая расьліна не расьце.

— Як там добра, у Эгіпце. Заўсёды ёсьць хлеб у селяніна. Але яму няма калі і адпачыць: цэлы год работа ў полі, — сказаў Рудак.

— І, значыць, пастухі цэлы год пасуць каровы? — спытаўся адзін з вясковых пастушкоў.

— А памятаеце, хлопцы, як пазалетась цьвілі ў нас увосень маліны, вішні, яблыні? Цёплая была восень. Толькі маліны былі не такія салодкія, як летам, — сказаў Грыцук.

— Ну, ведама, сонца ўвосень не такое гарачае.

— Калі-б я жыў у Эгіпце, дык цалюсенькі год купаўся-б у рэчцы, — чырванеючы дадаў нейкі хлопчык.

— Цябе кракадзіл схопіць, — пажартаваў Мароз Пётра і кінуўся паказваць, як хапае кракадзіл.

Узьнялася вясёлая тузаніна...

— А дзе тамака зімавалі нашыя птушкі? — пацікавіўся Максім Тамковіч.

— Ведама дзе, — адказаў Язэп Бычок: — усюды, дзе можна мець пажыву, дзе ёсьць расьліны, балота, вада. Там вялікая рака Ніл, які выцягнуўся на шэсьць тысяч кілямэтраў.— У тым

Эгіпце ўсё ня так, як у нас. Там, напрыклад, няма нашых пушчаў, лясоў, няма сасны, елкі...

— А з чаго-ж тады будуюць хаты? — спытаўся Рудак.

— А з мулу. Яго перамешваюць з пшанічнаю ці кукурузнаю саломаю, рэжуць на кавалкі, высахне — кладуць сьцены. А стрэхі там не такія, як у нас, а роўныя, плоскія, па іх можна хадзіць, сядзець, ляжаць на іх..- Гэтак усюды на ўсходзе.

— Добра, ты кажаш — няма лесу. Але-ж дрэвы, пэўна, што ёсьць? — спытаўся Дрозд.

— Ну, а як-жа. Яшчэ якія! Ёсьць, напрыклад, фінікавая пальма: для жыхароў плады яе тое самое, што твой хлеб. Альбо вазьмі алейнае дзерава, шаўковае дзерава, цукровы трысьнік: у нас іх ніводнага няма.

— Яшчэ ёсьць там хмызьняк, называецца „мімоза": як дакранешся да лісточкаў пальцамі, дык зараз — жа скручваюцца, а потым ізноў выпрастоўваюцца. Я чытаў у кніжцы, — сказаў Міхась Грыцук.

— У нас ёсьць свая „мімоза" — загартушка: як муха сядзе на лісточак, зараз яе накрывае і ёю корміцца, высмоктваючы сок. Расьце на тарфянішчах.

— А якія там сады? — спытаўся хтось з дзятвы.

— Нашым садом далёка да іхных. Там і памаранцы, і вінаград, і цытрыны, і фігі і шмат іншых.

— Якіх ты ня знаеш, — рассьмяяўся Мікалай, а за ім і усе.

— Хлопцы, ці не пара нам і разыходзіцца? — сказаў Язэп Бычок. — Хочацца есьці.

— Я яшчэ хацеў спытацца, ці ёсьць тамака коні? — пацікавіўся Максімка.

— Куды лепшыя, як нашыя, бо блзіка Арабія, дзе разводзяцца найлепшыя ў сьвеце коні. Але там езьдзяць конна і возяць розныя цяжары пераважна на аслох. А праз Сахару — гэта найбольшая на сьвеце пустыня, дзе нічога ніколі не расьце — езьдзяць толькі на вярблюдах. Вярблюд нясе на сваім гарбе 15-20 пудоў і ідзе ў гадзіну 10-15 кілямэтраў.

— Ось наслухаліся сяньня цікавых рэчаў! — сказаў Рудак.

— Можаш у кніжцы аба ўсім гэтым прачытаць. Хто няграматны, трэба вучыцца, і усё будзеш ведаць, — дадаў на заканчэньне госьць з Вільні.

Дарогаю дзеці ўмовіліся часьцей зьбірацца на гутарку.

### Скарагаворка.

Ён жыве, яго нішто не бярэ. Семера варот, сена агарод, толькі і праходу, што хадзіць па воду.

## БЕЛАРУСКІ БУКВАР.

Дзеля навучаньня беларускае граматы (гражданкаю) нядаўна выдадзены ў Вільні буквар „ПЕРШЫЯ ЗЕРНЯТКІ“ С. Паўловіча. З гэтага буквара павінны вучыцца ўсе беларускія дзеці. Трэба, каб у кожнай сям'і былі „ПЕРШЫЯ ЗЕРНЯТКІ“. Каштуе буквар 50 гр. Калі выпісваць не паасобку, а гуртом, дык адна кніжка можа абыйсьціся не даражэй як 40 гр. Выпісваць можна праз усе беларускія кнігарні і часапісы. Падаем адрас галоўнага складу выданьня: Wilno, ul. Zawalna № 1. Białoruska Księgarnia „Pahonia“.



Пасьля буквара трэба вучыцца па кніжцы „ПІШЫ САМАДЗЕЙНА“, таго-ж аўтара; кніжка каштуе 1 зл.

## УСЯЧЫНА.

**Мядзьведзі ў Белавескай пушчы.** Ужо даўно ў Белавескай пушчы няма мядзьведзяў. Цяпер польскія ўлады хочуць іх ізноў завясьці. Хутка маюць прывязьці і пакінуць у пушчы трох мядзьведзяў.

Гадоў 50-60 таму назад былі прывезены такім-жа парадкам алені з Сыбіру. Праз 30-40 гадоў яны размножыліся ў пушчы і перад самай вайной іх было там каля 30.000. Цяпер іх там зусім мала. Зьністожыла вайна і ня стала для іх ранейшага прывольля, калі пачалі масава высякаць лясы.

**Ластаўкі на аэрапляне.** У Аўстрыі ў кастрычніку 1936 г. рана пачалася сьцюжа. Ластаўкам, якія не пасьпелі даляцець да мора, пагражала нямінучая гібель. Тады сябры „Таварыства абароны жывёлаў і птушак“, каб выратаваць іх, палавілі ўсіх і на аэрапляне перавязьлі на бераг цёплага мора, скуль яны ўжо сваімі сіламі паляцелі далей на паўдзён.



**Зьмеі ў горадзе.** У адным горадзе паўдзённае Афрыкі з нядаўняга часу заўважана шмат зьмеяў, якія прыпаўзьлі з стэпу. Гэта — вялікія і атрутныя зьмеі (кобры). Ад іх жыхаром проста няма жыцьця. Зьмеяў поўна ўсюды — і ў садзе, і ў хлеве,

і ў хаце; залазяць у пасьцель, у адзежу і г. д. Што іх загнала ў горад? Думаюць — гарачыня. Калі ў нас зіма, дык там гарачае лета.

**Чэцьвера цялятак** прывяла гэтаю вясною адна карова ў Нямеччыне. Цялняткі, як і іхняя матка, здаровыя і адчуваюцца зусім добра. Усе цялняткі лысенькія.

**„Валодзя“**. У Маскве, у садзе для зьвяроў, ёсьць малады слонь, ведамы пад мянюшкай „Валодзя“. Яго нядаўна прывязьлі. Ён вельмі дабрадушны. Валодзя прывык да стоража, які яго даглядае: без яго спачатку не хацеў спаць, часам бегае з ім навыперадкі па загарадцы, дзе стаіць. Валодзя ўмее хобатам зачыняць дзьверы свае „хаткі“; узяўшы хобатам палачку, пачынае вадзіць ёю па кратах свае загарадкі — гэта ён так забаўляецца. Калі Валодзя хоча есьці, ён паднімае хобат і пачынае таптаць нагамі ды ківацца. Вельмі любіць цукар, яблыкі, гарбузы.

Валодзя не пераносіць белага колеру, бо па дарозе з Лёндану ў Маскву доктар, які лечыць зьвяроў (вэтэрынар), апрануты ў белы халат, лячыў рану на хобаце Валодзі, ад якой ён вельмі мучыўся.

## ШТО ЧЫТАЦЬ ДЗЕЦЯМ?

## ЖАРТ.

— Як называешся, дзіцятка?
— Так, як мой тата.
— А твой тата як?
— А так, як я.

— Ну, а як-жа цябе клічуць на абед?
— Мяне на абед ня клічуць, бо я сам іду.



## ПАМЯТАЙ!

Чыста мыцца!
У школу не спазьніцца!
Чыста пісаць!
Кніжкі не мараць.

ЗАГАДКА. Летам ёлка, а зімою цёлка.

## Задачкі.

I. У хаце чатыры куткі; у кожным кутку сядзіць па катку; процiў кожнага ката сядзяць па тры каты. Колькі катоў у хаце?

II. Два бацькі, два сыны ды дзед з унукам. Колькі усіх?

---



---

Warszawa. Drukarnia Synodalna. Paryska 27.